## Да нас пішуць

Вельмі паважаная Рэдакцыя!

Каб падзяліцца сваёй радасьцю з нашымі чытачамі, просім зьмясьціць у нашай роднай газэце наступнае: мы, бацькі, сабраўшыся на ўрачыстым сходзе ў нашай школе 28 траўня ўбачылі, што нашая школа красуе. Партрэты і сьпіскі выдатнікаў умешчаныя на відочным месцы, упрыгожаны зеленьню.

Народу сабралася шмат, бо з прычыны нядзелі былі бацькі і тых дзяцей, якія па розным прычынам не наведвалі школу.

Настаўнікам сп. І. Бурдукевічам прачытаны былі ацэнкі з навучаньня з пачатку і канца навучальнага году. Мы з вялікім зацікаўленьнем выслухалі, якая вялікая розьніца паміж пачаткам і канцом у навуцы.

Вачам і вушам нашым ня верыцца, што пры адсутнасьці патрэбных падручнікаў, а толькі пры дапамозе «Новай Дарогі» наш няўтомны кіраўнік змог навучыць дзяцей, бо вынікі аказаліся вельмі добрыя.

З [illegible] нашаму настаўніку сп. І. Бурдукевічу ад імя ўсіх бацькоў складаем шчырую падзяку і жадаем яму ад Бога добрага здароўя і сілы для выхоўваньня нашай моладзі ў патрыятычна-нацыянальным духу, усьведамляючы, што наша мова ня мужыцкая, як нашы ворагі нам казалі.. Горача запрашаем яго папрацаваць на гэтай ніве і ў наступным годзе, а Беларускае Аб'еднаньне просім даць яму патрэбных памочнікаў.

Даем ганаровае слова, што ў наступным годзе дзеці ўсе, як адзін, будуць наведваць сваю родную школу.

Нашы дзеці так палюбілі свайго настаўніка, каторы ніводнага вучня не пакрыўдзіў, хаця быў станоўчы і вымагальны ў навуцы, а так змог схіліць да сябе дзяцей.

За гэта наш нястомны выхаваўца заслугоўвае на агульную пашану і шчырую падзяку як ад дзяцей, так і бацькоў нашае вёскі.

Жыве Беларусь!

Сяляне вёскі Рудзевічы

29.5.1944 г.

## Абвесткі



Беласток, 9.6.1944 г.

## Да ўсіх Казакоў!

На падставе выдадзенага закліку гэнэрала Краснова да ўсіх казакоў, паводле якога кожны з іх да 60 гадоў свайго жыцьця, які прайшоў ваенную службу, павінен ахвяраваць свае сілы Нямеччыне для барацьбы супроць бальшавізму, прашу ўсіх членаў ранейшых казачых аддзелаў, якія цяпер пражываюць у Беластоцкай Акрузе, замэльдавацца ў канцылярыі Самааховы Службы Бясьпечнасьці, Беласток, Франкфуртская вул. 9., 18 чэрвеня 1944 ад 8 да 10 гадзіны, прыносячы з сабою адпаведныя дакуманты.

Падрабязьнейшыя інфармацыі будуць пададзены на месцы.

Працадаўцы забавязваюцца працуючым у іх казакам даць ім на час муштраў водпуск.

З даручэньня Камандора Паліцыі
і Службы Бясьпечнасьці
на Беластоцкую Акругу
падп. Кляйн
SS-Обэрштурмфюрэр



Даводзіцца да ведама беларусоў, якія маюць незаконччаную мэдычную асьвету і жадаюць закончыць яе, што ў Вільні працуе Беларускі Мэдычны Інстытут, які прыймае заявы на II і III курсы.

Жадаючыя павінны якнайхутчэй падаць заявы з дакумантамі на адрас: Вільня, вуль. Гэдыміна, 4., Беларускі Нацыянальны Камітэт.

Пачатак занятнаў 1 ліпеня 1944 г.



## Сельская гаспадарка

### Аб уборцы сена

Сена ёсьць асноўны корм для рагатай жывёлы і коняй узімку. Таму бязумоўна павінны быць скошаны ўсе сенажаці, каб ня толькі змагчы цалкам выканаць усе дастаўкі і атрымаць за гэта каштоўныя прэміі, але каб мець дастаткова корму для уласнай жывёлы. Вартасьць сена і яго значэньне для дасягненьня найлепшых вынікаў пры корме ім залежыць ад яго якасьці. Чым больш багатым на бялкі будзе сена, тым лепшыя вынікі дасьць харчаваньне ім. Вартасьць сена як корму залежыць ад расьлінаў, з якіх яно складаецца, гэтаксама і ад часу сенакосу. Паколькі найперш трэба захаваць у сене найбольш бялкоў, трэба праводзіць сваечасова сенакос. Сенакос павінен пачынацца ад пачатку цьвіценьня траў. Таксама пры пачатку цьвіценьня скашваецца люцэрна, чырвоная канюшына і звычайная канюшына. Малады расьліны маюць найбольш спажыўных рэчываў. У старых расьлін дзеравянее сьцябло і лісты часткова аддаюць выпрацаваныя спажыўныя рэчывы сьцяблу і карэньням. Частка лістоў жаўцее, робіцца цьвёрдымі і трацiцца пры сенакосе.

Калі пры больш позьнім сенакосе можна атрымаць больш сена, дык яно больш беднае спажыўнымі рэчывамі. Вартасьць сена вырашаецца не ягонай колькасьцю, але колькасьцю спажыўных рэчываў, якія адны уплываюць на колькасьць малака, цяглавую сілу і здароўе жывёлы.

Пры сенакосе вялікае значэньне маюць прылады да працы. Там дзе ёсьць касілкі, іх неабходна абавязкава скарыстаць, бо яны палягчаюць працу і лепш яе выконваюць. Таксама палягчаецца сенакос праз старанны догляд за сенажацьцю.

Пры зарыхтоўцы сена перад ўсім трэба пазьбегнуць вялікіх стратаў, якія здараюцца праз абламваньне частак расьлін, што маюць шмат спажыўных рэчываў, праз вышчалачваньне апошніх, праз плесень і гніцьцё. Калі сена ляжыць тонкімі пластамі, дык трэба яго паварачваць некалькі разоў і толькі, калі добра высахне, складаецца ў большыя кучы. Расьліны сохнуць хутчэй, калі адразу-ж пасьля укосу яны раскідаюцца і потым некалькі разоў паварачваюцца.

Ніяк нельга застаўляць сена ляжаць раскінутым у часе расы і дажджу, бо яны беляць сена, бяруць у яго пах і вышчалачваюць спажыўныя рэчывы.. Таму увечары або перад дажджом сена зносіцца у большыя кучы і раскідаецца пасьля расы і дажджу, калі паветра дастаткова сухое. У часе працяглага дажджу трэба час ад часу варушыць кучы, каб пазьбегнуць загніваньня сена.

Калі сена сухое, яно перавозіцца на сенавал або складаецца у скірды. Скірды ставяцца па магчымасьці у месцах, адкуль заўсёды можна яго вывезьці. Дзе сенажаці заліваюцца вадой, там скірды трэба ставіць вышэй над зям-

Штогод праз позьні сенакос трацiцца шмат сена. Калі гэта нельга пазьбегнуць цалкам, дык трэба страты па магчымасьці абмежаваць.

У гэтым годзе патрэбна ня толькі скасіць усе сенажаці, але праз сваечасовы сенакос і старанную ўборку атрымаць добрае, спажыўное сена.

З КРАЯВІДАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ



Хараство лета ў вёсцы.

Herausgeber: Weißruthenische Vereinigung in Bialystok, Gotthardstr. 1. Tel. 253. Verantwortlich für den Text: Theodor Iliaschewitsch.

Выдавецтва: Беларускае Аб'еднаньне ў Беластоку, вул. Готтгарда № 1, тэл. 253. Адказны за зьмест: Хведар Ільяшэвіч.